Янка Лайкоў

# ВОГНЕПАКЛОННІК

*Вершы*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2003

*Янка Лайкоў нарадзіўся ў 1979 годзе ў вёсцы Мётча, што на Барысаўшчыне. Вывучаў беларускую філалогію ў БДУ. Цяпер студэнт Беларускага універсітэта культуры. Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы. У «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» выдаў зборнік вершаў «Логіка пасткі».*

Здзейсніць немагчымае, прайсці праз спапяляльны жар Паэзіі, ачысціцца ў ім, адбыцца ў Слове – вось чым апантаны лірычны герой Янкі Лайкова. Удумлівы чытач знойдзе ў зборніку ўсё: ад філасофскіх развагаў да ўзнёслых і кранальных інтымных вершаў. Традыцыя і наватарства, інтэлектуальнае і містычнае, міфалагічнае і біблейскае – усё гэта арганічна паяднаў у сваіх вершах малады паэт.

УДК 821.161.3-1
ISBN 985-02-0609-8
ББК 84(4Беи)-5
Л 18


Рэдактар І.П.Дабрыян
Мастацкае афармленне А. І. Цароў
Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт
Тэхнічны рэдактар Т. С. Звяркові
Стылістычны рэдактар М. Ч. Пермякова

Пры афармленні вокладкі выкарыстана
карціна Мікалоюса Чурлёніса «Казка каралёў»

***

Невідушчыя вочы
прагнуць бачыць.
Вясновая кветка быцця -
- першааснова існасці.
І розум,
стомлены,
спрабуе дарэшты загінуць,
каб зноў нарадзіцца
не розумам —
верай.

***

Зніякавелы, стаю
пад купаламі Храма Паэзіі.
Пазіраюць на мяне з абразоў
прасветленыя і мудрыя твары.
Кленчу перад імі —
перад адным - больш,
перад другім - менш,
шукаю адказу на вечнае пытанне.
Маўчаць абразы. Самотна робіцца мне.
Раптам ззаду нехта пытаецца ціха:
— Што з табою, чалавеча?
Азіраюся — нікога.
— Не там шукаеш,– зноў голас гучыць.
Падымаюся, абтрасаю пыл з адзення,
іду да выхаду. Брама зачынена.
Выйсця няма. Але за плячыма – крылы.
Узлятаю, прабіваю купал...
Навокал – прасцяг і блакіт,
зяляніна ўзгоркаў і далін.
І голас:
– Што табе яшчэ трэба?
Перад табою – існы Храм,
створаны Мною, сапраўдным Творцам!
Узлятаю ўсё вышай і вышай,
набліжаюся да твару Аўтара.

**БАЛАДА ВЫГНАННЯ**

...І вышыні нас прымалі як сваіх -
нас, выгнаннікаў, аслаблых у блуканнях
па юдолях пекных, ды чужых,
па шляхах далёкіх і нязнаных.

Нас, выгнаннікаў прымалі як сваіх
святары і клалі спаць у храмах,
а пад раніцу будзіў нас сонны мніх,
шчыльна зачыняў за намі браму.

І выходзілі мы зноў на біты шлях,
пыл страсалі са свайго абутку,
сыпалі на голаў сабе прах,
аддавалі свае душы смутку.

З паднябёсных стромістых вышынь
чулі мы, зямныя пілігрымы,
то маўчанне ветаха ў цішы,
то святыя, ў гонар неба, гімны.

Далячыні, туманы, дымы,
дрогкай зоркі трапяткое ззянне...
На багоў не мелі крыўды мы,
што наканавалі нам выгнанне.

Як сваіх прымаў нас новы шлях –
нас, збялелых тварамі і босых.

Палымнелі далягляды ў снах,
і ў руцэ дрыжаў вандроўны посах.

## МАЦІ

Змярканне лепіць цень да столі.
Малы, цягнуся, каб схапіць
ружовы бохан спелай поўні,
на срэбры пальцы сашчапіць.

Матулін твар усмешкай ззяе,
і шчасця шчырая сляза
як долу падае – ўзрастае
дзівоснай кветкай хараства.

І песцяць стомленыя вочы
спакой маленькага сынка.
Ужо змяніў світанак ночку,
а матчына не спіць рука.

***

Я дарма не імкнуся да веры,
за імкненне плачу сумленнем,
за сумленне — вякамі,
за вякі — дарогамі,
за дарогі — пазнаннем,
за пазнанне — самім сабою.

***

У тваіх валасах – каласы.
Сумна, сумна, мая багіня.
Твой ускормлены з ласкаю сын,
я пакіну цябе і загіну?

Мо не варта казаць пра бяду,
бо ўсё роўна ніводзін з нашчадкаў
злых гадоў не супыніць хаду
і не зменіць адвечных парадкаў.

Буду кінуты я ў агонь.
Сумна, сумна, мая багіня...
Б’е халодная кроў у скронь.
У смузе патанае Радзіма.

**ВОЛЬНЫ ПТАХ**

І зноў рукі – крылы.
На мяжы быцця і небыцця
світае трывога святая. Болей
не будзе абрыдлага болю.
Я – Вольны Птах.

А ўнізе – зямля белая
ляжыць. Аблокі сплываюць за
прастор пад зорамі. Бліскавіцы
мігцяць і падаюць ніцма.

Вочы загінуць там,
дзе не будзе мяне заўтра.
Крылы згараць там,
дзе не будзе мяне заўтра.
Я застануся там,
дзе не будзе мяне заўтра.

Я — Вольны Птах.

## НЯЗВОДНАЕ

На паверхні пашарпаных сцен
і на твары братоў-езуітаў
клаўся змрочны, сутонлівы цень,
неспатоленым болем спавіты.

Я, знямоглы, сляпы ерэтык
сярод цемры бясконцай, адчайнай
то нясцерпна зрываўся на крык,
то вымройваў зацята маўчанне.

А пасля, у трывожным паўсне,
я уздрыгваў раптоўна, нібыта
праз парожнюю стынь на мяне
натыкаліся рукі Нябыту.

***

Я – вартавы ля брамы мар.
Ускоснасцю не раз забіты,
нясе мой розум злы цяжар
малітвы.

Туманіць вока мне мана
і вушы закрывае слота.
Малітва ж у мяне адна –
самота.

***

датыкаюся да вытокаў
блытаюся ў нябачнай сетцы
дранцвею атручаны чаканнем
абуджаюся прасветлены цемраю
выкоўзваюся з абдымкаў сну
выкоўзваюся ў бяссоннё
аддаю даніну бяссэнсіцы
гукаю ў пустой прасторы
змагаюся да знямогі
трымаю тайну
маю надзею на жыццё

***

Крывёю срэбнай маладзік брыняе,
расце і спеліцца, каб ветахам сканаць.
Хто ён такі, навошта ён – не знае,
не дадзена яму таго спазнаць.
І, непрытомны, сярод цьмы блукае,
шукае, каб дзе назаўжды спачыць...
Страчае зоры зрэдзь, і іх куляе
адчайна ў чэрава сляпой начы.

## АГОНЬ І Я

Распластаны, раструшчаны Ценем Смерці,
ляжу на зямлі адзін.
Кружляе нада мною,
спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй
вялізарны чорны птах.
Ён адчувае пах маёй крыві
і чакае свайго часу.
Час хутка надыдзе.
Але бачу: ідзе нехта –
невыразная постаць
на фоне пустэльнага краявіду.
Намагаюся прыўзняцца і,
задыханы, падаю зноўку,
нерухомею, стыгну пакрысе.
Нехта падыходзіць, становіцца побач.
Ён малады, як Бог.
«Ты хто?» – пытаю.
«Я – пілігрым», – чую ў адказ.
«Ты прыйшоў дзеля мяне?»
«Не! Не! Не!»
Пілігрым знікае.
Я пачынаю разумець,
што яго ўвогуле не было туг ніколі.
Я – адзін. Бясконца адзін.
Цэнтр Сусвету, які стварыў сябе сам.
Тое, што я чую –
усяго толькі рэха былога,

тое, што я бачу–
адны ўспаміны.
Мяне нібыта няма,
але я ёсць, і я паміраю.
«Крум! Крум! Крум!» – крычыць птах,
пралятаючы зусім нізка.
Я нават адчуваю
сваім разгарачаным ліхаманкаю тварам
рух паветра пад яго крыллем.
мне становіцца знобка.
Сабраўшы апошнія сілы,
непаслухмянымі рукамі
бяру з кайстры крэсіва
і нараджаю маленькі кволы агеньчык.
Частую яго сухім імхом, спялю яго,
і сэрца маё напаўняецца радасцю.
Ён расце, аддзячвае мне за клопаты –
саграе мае азяблыя рукі,
супакойвае і дае надзею.
Чорны птах бачыць гэта
і палохаецца за сваю здабычу.
Ён высока ўзлятае
і рэзка пікіруе ўніз,
спрабуе ўзмахам крыла пагасіць маё адзінае дзіця.
Але мой агонь сам жорстка карае драпежніка –
перакідваецца на яго,
і птах праз колькі хвілін гіне,
ахоплены полымем, высока ў паветры.

«Дзякуй табе...» – шапчу агню,
тулюся да яго, ледзь не плачу.
Але агонь не адказвае мне.
Барацьба знясіліла яго.
Ён гіне таксама.
Я не магу даць яму новае жыццё.
Полымя няўмольна гасне.
І разам з ім і я губляю апошнюю моц,
і жах –
жах ад усведамлення неабарачальнасці існага –
робіць апошнія імгненні нашага жыцця
невыноснымі.
Агонь і я...

# ВОГНЕПАКЛОННІК

Разразаючы смутку тугую жарству,
я брыду да цябе, мой Агонь!
Праз таўшчэзны дзірван да цябе прарасту
каранём!

І няхай пасміхаюцца злыя жрацы
і пажадліва выюць ваўкі,–
помню я, як ты скроні мае залаціў
там, ля Чорнай Ракі...

Ты мне песні спяваў пра дзівосны Сусвет
і даверліва рукі кранаў...
Я ж сядзеў і сляпымі вачмі, нібы ў сне,
на цябе пазіраў.

## РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ

Злаві мяне!
Я — тут!
Хіба не бачыш мяне?..
Нешта грудзі сціскае,
не магу дыхаць...
Выцягні ж з багны маю душу,
брудную і непрыгожую,
непрытомную заўсёды,
ад самага пачатку дзён,
калі ў крывавым мроіве
ўзрадзілася яна
наноў.
А зараз –
          патанаю,
                    патанаю,
                              патанаю...

## ВЕЖА МАЁЙ АДЗІНОТЫ

Я на самай вяршыні ейнай знаходжуся.
Бачу, як сонца ўзыходзіць
і як сонца заходзіць,
як робіцца поўняю маладзік,
поўня робіцца ветахам.
Асляпляльнае, спапяляльнае,
неспатольнае, дзіўнае
кола жыцця не спыняецца ні на хвіліну.
Я ж на самай вяршыні вежы знаходжуся.
Я прайшоў праз кола жыцця
і узнёсся ў нябёсы.
Беспрытульны, каб долу не ўпасці,
знайшоў сабе вежу.

## ПЕСНЯ

*Марыне*

Няма на зямлі ні святла, ні радасці,
ні тугі, ні адчаю...
Пойдзем, закаханая-закалыханая,
да крыніц.
Абмыю твар твой,
рукі твае і валасы твае,
шэптам суцішу цябе,
вымалю ў неба, ў вады, у зямлі
твой супакой –
пойдзем, каханая,
пойдзем
да крыніц.
Там спачнем ад трывог,
там гаючых траў прахалода
нас абдыме і мы акрыяем.
Каханая,
да крыніц
пойдзем?
Песню спяваю табе –
ты спіш,
рукі цалую твае –
ты спіш.
Прачынайся,
маімі песнямі закалыханая,

пойдзем верасовымі пусткамі
да крыніц,
пойдзем, там –
душ нашых неруш.

## СТАРЫ МЛЫН

Каля рачулкі безназоўнай
у светлай вотчыне маёй
ёсць млын стары, ад вока схоўна
спавіты даўніной нямой.

Ён тут спрадвеку. Невядома,
хто збудаваў яго і як.
Не раз, паўдзённай гнаны стомай,
спачыць сюды прыходзіў я.

Рабілася світальна, добра
і цёпла неяк на душы
у гэтых сценах прахалодных,
у гэтай нерушнай цішы.

Калісь было: прыспаў змярканне
і падхапіўся сярод зор,
як быццам хтось у сне параніў,
па сэрцы паласнуў лязом.

Прыўзняўся, хутка звык да змроку,
паслухаў ценькі цёк вады
і праз рыпенне крохкіх кроквай
чыесьці крокі ўчуў тады.

І нехта цьмяны, велізарны
мне проста ў вочы зазірнуў.

Сваім паглядам змрочным, хмарным
ён мне душу перавярнуў.

З тае пары я беззваротна
закуты ў стылыя ільды,
а у душы, пустой і мёртвай,
сціхотна да жуды заўжды.

***

Дванаццаць свечак на куце,
і кожная – згарае,
а велізарны смутны цень
на хату наступае.

Але ратуе нас агонь –
гарачы, аж балючы.
І гэты сон вякоў спакон
трываць,
трываць нас вучыць.

**ДАСВЕЦЦЕ**

Ноч, поўная высокага жалю,
на самоце канала.
У прадчуванні пажару
стаіліся стылыя далі.

На ветаха вейках дрыжалі
світальныя слёзы расстання.
Ноч, поўная высокага жалю,
сканала,
не дачакаўшыся рання.

***

Можа, бачылі: спячых твары
дзіўна палатнеюць дасвеццем,
нібы попелам нейкім шарым
абсыпае іх ранішні вецер.

Нібы так іх кахае неба,
як кахае іржавыя пожні,
як кахае маладзіковае срэбра,
як кахае закаханага кожнага.

Мулка ў мроях уласных спячым:
перажыць бы дасвецця хвілі...
Можа, бачылі: душы плачуць,
бо не хочуць ісці ў магілы.

## МАНАЛОГ ЖАЎНЕРА

Ты мяне пачакай,
не сыходзь
у бязмежжа спякотнай пустэльні —
скуты я ланпугамі грахоў,
куляй скрухі
наскрозь прастрэлены.

Не сыходзь,
пачакай мяне,
абдымі і скажы, што верная...
Я — жаўнер на праклятай вайне,
ты — жаданая,
белая смерць мая.

***

Вятры нізеюць за смугой,
снягі валодаюць самотай,
сляза сцякае за слязой
нібы пакрыўджана, употай.

Няхай віруе злы мой лёс,
мне даспадобы гэта роспач,
бо ўласных я не бачу слёз -
паэзія мне засціць вочы.

***

Прыцемак хавае цені.
Адвечны ворат мой – я сам –
гуляе ў словы. Палёгка
хутка будзе тут.

І святло разліецца.
І морак адступіць у ноч.
Бурштынавыя зоры паснуць,
узрасце прадчуванне.

Множыцца расліннасць.
Кусціцца бачанне ў трох станах:
уздойму,
нямога трымцення
і скону.

***

Імглісты прысак ледзь ліпеў,
на ўзмежку пасвіліся коні.
Мой бацька спаў. А я сядзеў,
забыўшыся зусім на стому.

На грудцы сена соп Байкал,
раз-пораз натапырваў вушы,
калі ледзь чутны шолах траў
яго сабачы сон парушваў.

І цені коней над ракой
мой зірк цягнулі, чаравалі.
Святая ноч, святы спакой
памалу ў вечнасць адплывалі.

***

Прысненне дзіўнае і лёгкае:
у сціхлай завадзі рачной
шчупак самотны гучна плёхкае
і цені зыбяцца чаўноў.

А дальш, у чаратох прыстоеных,
дзе звыкла жамяра гудзе,
а гукі дыхаюць сутоннямі,
ступае нехта па вадзе.

Аброслы раскаю і згорблены,
пасрэбраны увесь луской,
спавіты воднай прахалодаю,
павольна ён ідзе ракой.

К яму хінуцца вербы ніцыя,
і цішу поўніць дзіўны звон.
І падаецца мне, што быццам бы
так з рыбамі гаворыць ён.

І вочы цёплыя паблісківаюць
сярод зялёных валасоў,
і іскры ясныя распырскваюць
на мой далёкі, светлы сон.

## ЗМЯРКАННЕ

Прысмерак вечаровы сціхотна кладзецца
на спавітыя задуменнем абшары.
Сонца – маці майго адзінокага сэрца –
на захадзе спеліць пажары.

Мары людскія знаходзяцца дзесьці
там, дзе гуртуюцца шчыльна
бялёсыя, пульхныя неба дзеці –
ссамотнелыя аблачыны.

Гарлачыкам развінецца здзіўленне,
калі з самай высокай званіцы,
асляпіўшы абсяг на імгненне,
нібы вогненны боль навальніцы,
Бог Святла долу зрынецца ніцма...

...На захадзе далягляд ільсніцца.

***

Крык
развінае крылы
на ўсе бакі небасхілу
і ападае,
спрахлы,
у нетры страху.

І я,
непрытомны,
прымрою раптоўна:
то душа твая беспрытульная
вусціш дратуе:
«Ратуй мяне!..»

***

Каханне нашае сыходзіла крывёю,
і барваю брыняў знямелы дол.
Нас ахінаў сваім сівым сувоем
туман маны... А дым былых гадоў
сплываў удалеч. З неба ж ашалела
маланкі падалі, грымеў злавесна гром...
І вось тады і хлынула залева,
і змыла кроў, і зноў паўстала Ева
абноўленым святлом, цяплом, дабром...

***

Твая свечка ў акне. Поўнач. Змрочныя цені
зазіраюць у вочы табе. Ты – адна.
На падлозе – віно. На шуфлядцы – адзенне...
Гэтай ноччу не спіш ты, жадаеш спазнаць.

Ты жадаеш убачыць аблічча свабоды,
што расхрыстанай плоццю кладзецца на дол,
ды бясконцасць юрлівай зямной насалоды,
дзе яднаюцца страх, непаўторнасць і боль.

## ВАЛАСЫ ВЕРАНІКІ

Калі ў галактычным люстэрку
небяспека мільгае,
я змаўкаю.
І ўсё змаўкае,
аглухлае,
уражанае,
ссівелае.
І тады
ў звычайным карагодзе планет
выразна вымалёўваецца твар.
Позірк вачэй
цёплы,
спакойны,
добры,
і маё маўчанне – як непадпарадкаванне,
як адсутнасць веры у магутнасць космасу.
Таму што побач – вочы Веранікі.
Яе распушчаныя валасы –
знак,
яе позірк –
святло,
яе прысутнасць –
вечнасць.

## ПАЭТУ

Шукай, гукай, самотны пілігрым,
блукай сярод натоўпу, ды акрым
пустых вачэй і марнай мітусні
не згледзіш анічога, і вясны
квітнеючай святло не ўсцешыць больш,
бо навакол – скразны, пякучы боль,
і свет асуджаны на вечны здзек,
а ты – святы, ды ўсё-ткі чалавек,
табе баліць, табе, як нам, карціць
зайсці у краму, пляшку там набыць,
каб у піўнушцы бруднай за вуглом
заліць свой смутак разам з сябруком,
і ўспомніць маладосць, і прыгадаць Яе,
натхненне і красу пары тае...

Але прачнешся ты ад п’яных кроз,
і прадзярэ тваё нутро мароз,
і змрочны бог сумненняў і трывог
цябе распне на ростанях дарог.

## ТАЙНА

Двое стаялі ля Вышняй Брамы,
насустрач Анёл ім выйшаў:
«Вы хто?» — «Мы шукаем праўды,
але не зямной, а вышняй».

Тады Анёл аднаго паклікаў:
«Ідзі, для цябе адчыняю Браму!»
І той увайшоў у праём. І знік ён,
і ўслед яму гучала: «Абраны...».

«Чаму? — запытаўся пасля нябога.-
За Брамай — якаясь тайна?»
Анёл прашаптаў: «Там няма нічога...»
І зарыдаў адчайна.

***

Спакоем поўніцца пагляд,
уся істота скіравана
туды, дзе светлы Боскі Сад
стаіць. І кволае адхланне

зваротным поклічам гучыць,
імкнецца ў роспачнае царства
забытых мрояў. Ды спачын
мне хутка цемрай вочы засціць...

Пярэстай зданню прамільгне
свядомасць. Але позна будзе —
я адыду туды, дзе снег
спадае попелам у студзень.

**БЕЗ ВАС**

Без Вас мне не спачыць уночы зноў
без Вас не прычакаю я адхлання,
прасякнуты адно тугой скразной,
самотна сустракацьму промні рання.

Без Вас душа мая — бяскрылы птах,
што, абнядужаны, ў вярыгах гіне.
Зняверараны, на голаў сыплю прах,
і крык мой у пустэльні марна стыне.

І ў чарадзе нямых, сцюдзёных дзён
згасаю, быццам ветах на дасвецці...
Без Вас жыццё — адзін падман і сон,
няўхільнае знікненне ў апрамецці.

Я воблік Ваш і праз смугу гадоў,
чало схіліўшы, моўчкі прыгадаю.
Прымрояцца ва ўсмешцы маладой
лагода ды цнатлівасць маладая.

***

Маім верным слугой
быў сабака.
Маім натхненнем было
сузіранне.
Драўляны кій
мне паказваў кірунак.
І не хапала мне толькі аднаго –
кахання.
Але што гэта такое?
Навошта яно?
І цяпер жыву я паміж
незразумелым і невядомым.
цяпер я –
невядома і незразумела хто...

## МАНАЛОГ ПАДБІТАГА ПТАХА

Збіраюцца мае сябры у вырай –
у цяжкі, але светлы й ясны шлях.
Я ж застаюся тут. Такі мне вырак:
у вырай не ляціць падбіты птах.

Няма мне даравання ад сябрыны,
найгоршым ворагам цяпер я стаў усім.
На сэрцы ж так балесна і палынна,
і так нясцерпна вабіць неба сінь...

А зверху да мяне даносіць вецер
дакор апошні: «Ты не наш, не наш...»
І я адзін, адзін у цэлым свеце.
Чаму, чаму так ёсць, а не інакш?

***

Я накідаю алоўкам на паперы
сумна-велічны пейзаж зімы.
Будзе мой малюнак белы-белы,
буду я – ссівелы і нямы.

Я прыкладваю далонь да сэрца –
ні біцця, ні руху не чуваць.
Божа мой! Чаму яно не б’ецца?
Прадчуваю: скону не стрымаць.

Лекі, травы, прахалода ліўня –
ўсё лухта. Надзея – як мана.
Цела стыгне. І істота гіне.
А душа? Душы даўно няма.

***

Калыханка пачынаецца з надыходам ночы,
кожнае слова пачынаецца з даўно забытае
гісторыі сівой даўніны.
Я зайздрошчу сёння таму,
хто стаіць на мяжы,
хто трымае нямое трымценне паходні
ў далоні
і сам кажа шлях свайму сэрцу.
Такое – дар Божы.

## НАТХНЕННЕ

Каляны боль маіх згрызот
лунае вокал сівых вежаў,
а зірк ужо не бачыць межаў
і працінае гарызонт.

За ім – святарнае іззянне
далёкіх шлякаватых зор.
Таемны, сплецены узор
да дзіўных скарбаў шлях казаў мне.

І калыхаліся крыжы
у вечным змроку абуджэння,
і мройнай тайны нараджэнне
трымцела промнем у імжы.

## СМАГА

Развінае пялёсткі лотаць –
душа прагне лётаць.

Плача Палессе песнямі –
залевы не спесцілі.

Слязьмі брыняюць разоры –
сінія сняць азёры.

## БЕЛЫ ВЕРШ

Я паснедаў нічым.
І ў кайстры схаваў
акраец паветра.
А пасля па аблоках
я за лёсам пайшоў
і пакінуў у зорках
сябе.

## ЗАПАВЕТ

прысак раздзьмухай адчуй
боль не боль роспач не роспач
калі німб паўстане ўваччу
калі поўня узыдзе тройчы

калі ўквеціцца твар не твой
сумна-прывідным прыпамінам
калі ўскоудраны ймглой сувой
ахіне цябе і абдыме

напярэймы табе скрозь сон
вымкне яскарка разумення
поўня поўная галасоў
на каменне ставай каленьмі

на нябёсы глядзі і ведай
ведай тое што нельга ведаць
ведай тое што нельга бачыць
ведай тос што нельга чуць

і вітай маладую ісціну
мрою дзён сарамліва кратай

***

А маладзік натхнёна ззяў,
святло кідаў у вокны хаты,
з-за шкла ж самотна пазіраў
на зімку дамавік кудлаты.

Крактаў нябога, лаяў снег
за тое, што насыпаў гурбы...
А нейкі чорны чалавек
працёмнай ночы зведваў згубу.

У мройных пацерках – бяда,
у завірусе белай – скруха,
у бляклых зерках – д’яблаў дар –
палеглы боль, што вые глуха.

***

Замчышчы тугі праступаюць скрозь
уяўныя абрысы далёкіх гор памяці
і крывёю барвяняць світанак мой.

А дзесьці вецер ціха напявае песню,
якую я недаспяваў яшчэ ў маленстве.
І дрыжаць павекі стомленых вачэй.

Рэха кахання гучыць у апошні раз.
Цвеліцца самотнае цяпельца ля маіх ног.
Я — у Краіне Мрояў ужо даўно.

***

Вядзьмарчыны вочы ў бязмэтнасці ночы,
вядзьмарчыны словы, што з мёртвае мовы
спаўзаюць у вушы мае, як у сховы...
Маўчы! Не крычы!.. Нехта сочыць...

Я крочу
па ціхіх завулках самотнай Арыды,
па чорнай сцяжыне забітага болю.
Мой розум не светлы. Ён цёмны і кволы,
заліты, як келіх, атрутай агіднай.

Маўчы! Не крычы! Апрытомней і слухай,
як ноч засцілае сляпое каменне,
як дрэваў заснулых нямое трызненне
свой сэнс набывае ў адметнасці рухаў.

Прачніся ж,
убач!
Бо
чырвоныя плямы спадаюць у прорву,
чырвоныя плямы знікаюць і гаснуць.
Глядзі: у падступна заплецены словах,
у прывідна-роспачнай споведзі поўні
хаваецца белая логіка пасткі!

***

Аднойчы
прачнуўся ўночы:
тут – бездань,
і там – бездань.

І выйшлі з майго анямення
тры сутнасці.

Каб выратаваць
сябе ад сябе,
ствараю і абуджаю,
трывожу і стрымліваю,
нітую праўду святую
і тую,
з якою
не знайду ніколі спакою.

## ДУША МАЯ

Усю ноч цябе жахі пасвілі,
ты крычала, нібы раджала,
аплятала цябе і звязвала
раздваёнае змея джала.

Рэха ціха за шклівам енчыла,
цемра моўчкі крысом ахутвала
хатніх рэчаў абрысы млечныя.
Хцівы змей адлятаў ад хутара.

***

І зноў ты з намі, Дух,
аслеплены і бляклы.
Ты спарадзіў нуду
у нашых душах спрахлых.

Наш боль сцякаў ракой,
калі ты нас паклікаў
зазнаць святы спакой
і ў боскіх ласках знікнуць.

Ты нам казаў пра Сон,
пра спадкаемцаў д’ябла,
што клічуць у агонь
самотным спевам вабным.

Калі ж ты зноў прыйшоў —
мы не цябе чакалі.
Па кропельках збіралі
сляды зямных дажджоў.

***

Я не ведаю,
дзе схавалася маё ўчора,
я забыўся,
дзе паклаў сваё заўтра,
мой цень —
гэта ўсяго толькі ява...
Калі?

## МРОЯ

Васількі ў тваіх валасах,
каласы у тваіх руках.
Як пабачу цябе — нямею,
надта ж светлая твая краса,
надта ж светлая яна для мяне,
надта ж чыстая яна для мяне...
Мая мілая, ясная мроя,
дай мне святасці болей,
каб пабачыу я,
ды ўжо без болю,
васількі ў тваіх валасах,
каласы у тваіх руках.

***

Там, дзе радасць і смех
знайшлі сабе прытулак,
дзе наваколле поўніцца
скрозь шчаслівымі галасамі,—
там не шукайце мяне.

Там, дзе розум чалавечы
адчуў сябе ўладаром жыцця,
дзе крык душы заглушаны
мройньпм мармытаннем
тысяч абыякавых фаліянтаў,—
там таксама не шукайце мяне.

Шукайце мяне там,
дзе жыццё губляе свой сэнс,
там, дзе пануе вечная восень,
там, дзе магіла мая ёсць.

**БЫЛОЕ КАХАННЕ**

Я ў роспачным вогнішчы думак сваіх
твае вочы пабачыў.
Калісьці хацеў растварыцца я ў іх
зусім без астачы.

А зараз, туды зазірнуўшы глыбей,
угледзеў атруту,
сцюдзёную ноч, і пачварнасць завей,
і краты пакуты.

А памяць стралою працяў успамін
аб шчасці далёкім,
усмешка згадалася вуснаў-малін,
каштанавы локан...

І сонца паблякла, і змрочна вакол
мне стала раптоўна.
І доўга глядзелі вачніцы акон
у стылую поўнач...

***

Я сустрэну цябе, Сонца,
калі ў барвяных медытацыях
пад чорным небам прамільгне
выратаванне.

Я сустрэну цябе,
калі толькі праз час,
                    праз крык,
                    праз халоднае маўчанне дрэў
прыйдзе ў гэты свет
Ён –
Бог Айцец,
Бог Сын,
Бог Дух Святы.

Раней —
ніколі!

***

За расчыненымі дзвярыма –
вочы наросхрыст,
за імі – пазалюстэркавы свет,
там – постаць.
То – анёл у рыззі
свечку трымае,
забытую праўду Хрыстовую
знае.

***

І не Богава, і не мніхава,
не тваё яно і не іхняе,
яно пахне старымі прымхамі,
яно ўладна ўсіх закалыхвае,
яно пудка уночы ўздрыгвае.

Немінучасць сканання ветаха
нас катуе думкай нязводнаю,
што нікому не ўнікнуць гэтага,
і не зведаць яго ніводнаму.

Імітацыя руху Сонца
набліжае да высокае моцы.
Купал зорнага неба над намі
набліжае да страты памяці.

О Агністае Царства,
мара
напаткаць цябе —
марная.

## СКАЗ ПАД КАЛЯДЫ

Калі пачынаецца вечар зімовы доўгі —
знікае самота. Аловак крыжуе дарогі,
марозныя ўзоры на шкле пакрысе
люструюць бясконцых снягоў карусель,
самотныя блікі стамлёнай прыроды
ў забеленай пустцы вядуць карагоды,
а гляну — звычайны мароз на акне...
Ці праўда было, ці прыснілася мне:
з далёкіх краёў сам Мікола Святы
прыйшоў асвяціць нашы душы й куты.

***

Хтосьці кратае сумную ліру рукой,
разліваюцца гукі нябачнаю плынню.
Ты глядзіш на мяне. Твой спакойны дакор
хутка музыку спыніць.

Будзе спаць у тваіх валасах цішыня,
будзе плакаць змярканнем пакрыўджаны лірнік,
а ў люстэрку хіснецца каменны прасцяг
дый застыне.

І ў журботных, бліскучых ад слёзаў вачах
схамянецца мой сцішаны прывід.
Я вярнуўся з бязмежжа. Я прагну пачаць
жыць без крыўды.

***

Белы, як воблака, ветразь
празрыстым сонечным раннем
растаў у далёкім моры,
растаў у шумлівым моры.

І ў вечнасць сышло шмат часу,
і птах, падобны на ветразь,
як воблака з высяў, белы,
на бераг празрысты выплыў.

Склаў крылы – расправіў крылы...
І вось – стралою ў нябёсы.
А там – аблачына-востраў.

На сонечных піках вострых
кроплі крыві густыя
застылі...

**ТАПЕЛЕЦ**

Кінуся з галавою ў вір —
рэчка засціць вочы вадой мне,
а халодны і мяккі жвір
мяне прыме ў свае абдоймы.

У дрыготкай, плыўкай смузе
голас рога прачнецца трубны,
знікнуць рыбы і гады ўсе,
распадуцца русалак гуроы.

Да мяне сам Цар падплыве
і ласкава асвенціць глеем
валасы на маёй галаве,
мне ж падасца –
ялеем...

***

Як душа стамляецца — жыццё
прыкрым робіцца, марнее, чэзне,
і не цешаць яе болып ні верш, ні песня,
і каханне болып — не адкрыццё.

Смуткам поўніцца адно душа,
быццам келіх — горкім, даўкім хмелем,
і ўсё роўна вуснам анямелым —
прамаўчаць альбо сказаць спярша.

Згасла сонца, што ў душы было,
быццам здані, зніклі ўсе жаданні,
і ўначы, праз слёзы і рыданні,
сніць душа ранейшае святло.

**ЧАС**

Час распачаць размову зноў
пра чорны вецер і пра зоры,
пра неспазнаны водар сноў,
пра нашых крозаў ілюзорнасць.

Хай вечар нам дае спадзеў
на тое, што не стрэнем звады,
што ні ў агніску, ні ў вадзе
не знікнуць нашыя пагляды.

Мы маем сёння што сказаць —
згадаць былое мы павінны.
Пакой наш будзе асвятляць
праменнае сяйво ўспамінаў.

Няхай імглой заслалы дол,
і мы — адзіныя ў сусвеце,—
на шчасце ад багоў дазвол
мы хутка, вельмі хутка мецьмем.

***

Споведзь – таемная повязь,
якая нітуе таго, хто спавядаецца,
і таго, каму спавядаюцца.

Споведзь – гэта ахвяра,
якая прыносіцца ў імя ачышчэння,
у імя захавання адзінства душы і цела.

Споведзь –дробязь,
але яна адмыкае дух,
узвышае годнасць,
нараджае адвагу...
Народжаная сумленнем,
споведзь –
гэта неўсвядомленая сувязь з Богам.

***

Высвецілі маю душу два промні:
адзін – сонечны,
Другі –
тагасветны,
з самай глыбіні душы маёй.
Там, унутры,
таксама ёсць сонца,
якое, адчуваю, згасае.
На скрыжаванні двух промняў,
двух сусветаў – я,
адзінокі сярод натоўпу –я,
маўклівы сярод шматгалосся – я,
уначэлы, аслеплы і...
раптоўна апрытомнелы,
трымаюся за Тваю руку, Ойча.

## САНЕТ

На дне глыбінным акіяна сноў
прыстала мая стомленая вера.
Патрапіўшы ў глухі і цесны нерат,
яна не чуе поклічу званоў.

І кожны год дзівоснаю вясной,
як бачу яе роспач невымерны,
ірвуць душу маю сумлення церні,
нявечаць розум ранаю скразной.

Настане час – і згіне беззваротна
усё: трывога, радасць, гнеў, маркота.
Тады тапельніца і ўзрушыцца мая,
да здрадніка сваё аблічча зверне
і пацячэ – насамрэч і наўяў –
крыніцаю світальнага натхнення.

## АДПАЛЫ АНЁЛ

На сценах тваіх галерэй
мастацтва замглёна-талае.
Струменіць пякельная акварэль
з-пад скрыдлаў апаленых.

А з нетраў стомленых сноў
трызнамі крохкага сполаху
выслізгвае слоў хараство,
запалам волі ахопленае.

Твой сон патрывожыць ён –
вандроўнік, адрынуты вотчынай.
Зазнаўшы траесны скон,
даткніся балесных воч яго.

На сценах тваіх галерэй
мастацтва замглёна-талае.
Зірні. Супыніся. Сустрэнь
пагляд анёла адпалага.

## СОН

Апаўночы плакалі зоры
над апусцелай калыскай.
Плакаў і ветах суворы,
І неслух-вятрыска.

Толькі я чамусьці не плакаў:
апантана надзімаў аблокі,
шукаў сузор'і і знакі,
высочваў свой цень глыбокі,

а над апусцелай калыскай
у цёмным эфірным моры
плакаў неслух-вятрыска,
плакалі моўчкі зоры.

***

Дай святло мне вачэй сваіх,
падаруй мне абсяг нябёсаў.
Я адцзячу табе, затым
апынёмся мы ў Доме Боскім.

Мы адчуем дыханне зор,
іх сумятлівы шал пабачым,
у вачох прамільгне прастор
і нястомны агмень юначы.

Будуць нас калыхаць вятры
на нябачных сваіх арэлях.
Нас з’яднае апошні ўздым.
Толькі, мілая, вер мне, вер мне!

***

Твае рукі цалавалі анёлы
у белых, акрыленых рызах.
Я прасіў у цябе дазволу
адною табою трызніць.

Перш чым неба долу апала,
твой дазвол прагучаў у высях...
Анямелае рэха спала,
я адною табою трызніў.

***

Нас вельмі мала
існавала,
мы ўсе імкнуліся
забыцца,
што некалі маглі дзівіцца
маленькай трапяткой крыніцы.

Пакуль звінела роспач,
побач
мы свет спаткалі —
у маленні,
і безліч сненняў без наймення
для нашых душаў — як збавенне.

## КРЫК АГНЮ

Па расталых ледавіках вачэй,
па храмах непрытомных твараў,
нявечачы крыжы-купалы,
пакідаючы за сабой акіян нематы,
бягу,
імчу,
нібы вецер, заўзята-ўтрапёна.
Мае рукі хваліста-тонкія
сведчаць аб выключнай мэтаскіраванасці.
Прагнасці! Прагнасці! Прагнасці!
На спадзістых стромах стыгну,
збянтэжаны разнатраўем далін;
і, мару аб смерці імгненна аявіўіпы,
крычу,
імчу,
размахваючы ў паветры паходняй-джалам.

***

На пагорку сцяна вырастала,
мкнула з нетраў глыбокіх наверх.
«Нешта страшнае...» – травы шапталі.
«Нешта злое...»  – казаў чалавек.

І трашчала зямля ад напругі,
палымнелі кастры навакол.
Аграмадністым госірым плугам
разразала пачварына дол.

Дарасла яна ўрэшце да пеба,
здрыгануўся прыгожы блакіт,
пацямнелае, ўспыхнула срэбра.
ледзь заззяўшы, апаў маладзік.

## ВІНА

Невыносны цяжар.
Невыносныя сны.
На буянне вясны
ён зусім не зважаў.

Ён адно толькі меў
у вачох, на душы:
ў гэтым свеце не жыць
і кахаць толькі смерць.

...І кахаў толькі смерць,
піў благое віно,
а навокал адно:
крутаверць,
крутаверць...

Перад сконам адчуў:
не стае... не стае!
І пытанне ўваччу:
«Што мне з смерці тае?»

**СЯБРУ**

Апошніх дзён застыг уздых,
трымціць наструненая восень,
і мы з табою – як браты,
і душам нашым разам млосна.

Дождж сыпле кроплі пакрысе,
і сняцца нам былыя стрэчы,
калі здавалася, што вечна
вясна струменіць у красе.

А зараз – падае вада
на дах сталічнае кавярні,
і мы з табою ў ёй – як вязні.
Імчыць ліхіх гадоў арда,

і, здэцца, плюнулі б на ўсё,
ды вось самота душыць горла,
а ўсе вакол – нібыта ўмёрлі...
І мы заказваем па «сто».

Апошніх дзён застыг уздых,
трымціць наструненая восень,
і сніцца нам, што мы ўваскраслі,
што мы такія ж, як тады.

***

Знябыўшы ўвесь цяжар непамыслотаў
і разбурыўшы смутных сноў сцяну,
рашучым рухам разарваць цянёты,
над прорваю схіліцца і... зірнуць.

І ўразіцца, і страціць мову потым,
і зразумецы былога не вярнуць.
На сонца раптам глянуць і прыкмеціць:
не грэе больш, хоць і зіхотка свеціць.

***

Твайму целу карцела
адчуць радасць судакранання.
За вокнамі сцюжа люцела.
Ранне.

Галінкі бэзу аголеныя
па шкле шкрэбалі: годзе...
Стыгла прамоўленае.
Поўдзень.

На шалі трывання твайго
ўзлягалі імгненне і вечнасць.
Чакаў нечага на двярэ ізгой —
вечар.

На сумёты без мэты глядзела,
цьмянелі ільдзінкі воч.
Адзіная ў гэтым свеце надзея
на ноч.

Апошнія кроплі расы
прыгожай да болю раніцы
усё даравалі ўсім,
аддаўшы ахвяру памяці.

А недзе забыты крок
гучаў у пакоі сцішана,

і ведалі ўсе: то Бог
прыйшоў, каб падаць ім ісціну.

## КАХАННЕ СМЕРЦІ

Пацалунак стыне водарам лотаці
на вуснах маіх.
Вада калыхае цень тваёй постаці,
спуджаны мніх.

Сонца кахае нас соннымі промнямі,
мора – няурымсліва-роспачным норавам
хваляу сваіх.

Вецер будуе на пляцы нам помнікі,
мой
улюбёны мніх!

***

Палае вогнішча нада мной –
адвечнай пакуты сімвал,
я здзейсню наклікае тугой
і вобраз прыкуты скіну.

Там, у нябёсах, за воблакам
мне мроіцца лета вечнае.
Там Ойча з вачыма добрымі
страсае завеі снежныя.

Замоўклі, пажоўклі жоравы,
звініць, надрываецца верасень.
Я, вечны бядак, агорваю
свой першы падатак ерасі.

## СКОН

Імгла. І стома небакраю
малюе белыя крыжы.
Я паміраю. Мне не жыць,
душа мая, як дзень, згарае.

Цьмянее і згасае твар,
і памяць, падчарка сляпая,
у роспачнай тузе канае...
Зграбае ноч ачахлы жар.

## ДА СЛОВА

Праз гады, праз вякі
я цябе чую, Слова,
ты гарыш, ты трымціш,
ты – аснова.

І калі ў сэрцы боль,
і калі пашанота,
час сустрэчы з табой —
насалода.

Дух Святы і Анёл
цябе песцяць.
Неба — вось твой сымболь,
твая песня.
Веру: шчаснай парой
уваскрэснеш!

**МАНАЛОГ**

Быць ці не быць паэтам
на Беларусі –
вось у чым пытанне.
Куды паляцеў беларускі бусел –
у вырай або ў выгнанне?

Што лепей – цярпець у скрусе
пасрэднасцяў панаванне
альбо сваё ўласнае
сэрца прымусіць
згарэць у агні змагання?
Быць ці не быць паэтам
на Беларусі –
у чым пытанне!

***

Толькі што ў нябёсах палала
і вось апала
зорачка.
І толькі самыя чуйныя на зямлі
(няйначай паэты) пачулі,
як жалілася яна й плакала,
скочваючыся Млечным Шляхам
у прадонныя тоні начы...

Прыслухайцеся –
гэта яна там
плюскоча,
плюскоча...

## ЗОМБІ

Занядбаныя словы далёкіх дрэў
у прымроеных раптам уражаннях
не знайшлі свайго скону;
час змарнеў і знямеў,
злою думкай маёю зняважаны...

А ў пустых і халодных радках,
быццам вока забітага ворага,
ні жывое, ні мёртвае,
слова-страх
пачарнелыя душы торгае...

***

...І прыкра нам, што мы — багі,
што падуладны нам стыхіі,
святло калысак, змрок магіл,
святыя дзеі і ліхія.

Мы знаем Веру і Любоў,
мы разумеем іх прыроду,
ды іх, асепленых рабоў,
кідаем прагнаму народу.

Каб не змаглі пазбыцца мы
таго, што здолелі адужаць,
каб вы, сыны адной труны,
уратавалі свае душы!

***

Імкнецца сэрца займець спакой,
зняверыўшыся ў мітусні і шале.
Развітацца з усім, што мае, спяшае:
з сумам пасівелых вякоў,
з рачулкаю гаманкой,
з зоркаю ўвышыні трапяткой...

Імкнецца сэрца забыць усё,
над чым раней трымцела, дрыжала,
чаго чакала, гукала,—
усё без жалю
шпурляе ў прорву нябыту, ў сон!

***

Не плач, паэт, калі не жывеш
ні ў царкве, ні ў касцёле, ні ў пагадзе, –
глыбокім сумам народжаны верш
на сум высокі асуджаны загадзя.

Яшчэ ты бавішся ў снах,
а страх
навечна страціць душу адзіную
цябе на вогненнакрылых вятрах,
з вышынь,
дзе ў захмарных лунаў вірах,
вяртае долу пуцінамі дзіўнымі.

І ты, спавіты зямным святлом,
натхнёна словы ў радках выспельваеш,
світанак разгараецца за акном,
выпроствае крылы,
яснее верш!